ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ДЭКАДНІК

СЭКТАРУ КНІГАГАНДЛЮ ДзВБ

№ 10-11 (17) | РАССЫЛАЕЦЦА ПА ЎСЕЙ СЕЦІ КНІГАГАНДЛЮ ПА РАЗЬВЁРСТЦЫ | АДРАС РЭДАКЦЫІ Менск, Пляц Волі 5, тэл. № 7—41 | 20 красавіка 1932 г.



## ГАНДАЛЬФІНПЛЯН ПЕРШАГА КВАРТАЛУ НЯ ВЫКАНАН. ВІЦЕБСКІ І МАГІЛЕЎСКІ ФІЛІЯЛЫ ГАНЕБНА ЗРЫВАЮЦЬ ВЫКАНАНЬНЕ. БАБРУЙСКІ І ГОМЕЛЬСКІ УСЁ ЯШЧЭ ЦЯГНУЦЦА Ў ХВАСЬЦЕ. МАЗЫРСКІ І ПОЛАЦКІ ПАСЛАБІЛІ ТЭМПЫ.

## І ПЕРАВЫКАНАЛІ ПЛЯН АРШАНСКІ І МЕНСКІ ФІЛІЯЛЫ.

### Перабудавацца на-хаду. Выканаць гандальфінплян другога кварталу і ліквідаваць запазычанасьць першага.

Штодзённая наша праца—змаганьне за выкананьне і перавыкананьне колькасных і якасных паказчыкаў гандальфінпляну, змаганьне за давядзеньне кнігі да чытача.

Зьмяшчаючы ніжэй зводку выкананьня гандальфінпляну першага кварталу сеткаю ДВБ і сэктарам спажывецкае коопэрацыі, мы павінны канстатаваць, што праца першага кварталу скончана са значным прарывам.

Сетка ДВБ рэалізавала ўласных выданьняў на 329 т. р.—78,3% гандальфінпляну. Агульны-ж гандальфінплян па ўсіх відах тавараў выканан на 85,26%.

Каб папярэдзіць прарыў надалей і каб ліквідаваць запазычанасьць першага кварталу, трэба дэталёва прааналізаваць асноўныя прычыны, якія спрыялі стварэньню прарыву ў распаўсюджваньні. **Галоўная прычына прарыву тая, што філіялы і кнігарні не перабудавалі працу адпаведна пастановы ЦК УсеКП(б) ад 15 жніўня і ажыцьцяўленьня 6 гістарычных умоў т. Сталіна.**

Выдадзеная новая літаратура на працягу першага кварталу на 1.227 т.р. і рэшткі літаратуры мінулых гадоў цалкам забясьпечыла кніжнаю прадукцыяй выкананьне гандальфінпляну першага кварталу. Але з тае прычыны, што праца вялася самацёкам і замкнута: **ня выходзячы з-за прылаўка з кнігаю, пры адсутнасьці масавае працы і сувязі з грамадзкасьцю**, мы маем значны прарыў у выкананьні гандальфінпляну нашае сеткі.

Нават Полацкі і Мазырскі філіялы, якія сыстэматычна выконвалі і перавыконвалі свае пляны, паслабілі тэмпы, **Віцебскі і Магілеўскі філіялы па прыкладу 1931 г. ўсё яшчэ ганебна цягнуцца ў хвасьце.** Ня гледзячы на выкананьне гандальфінпляну ў сакавіку Бабруйскім і Гомельскім філіяламі, пры адсутнасьці належнае працы з кнігаю ў студзені і ў лютым, атрымалася, што плян першага кварталу скончыўся са значным прарывам.

Трэба завастрыць увагу на тое, што ў паасобных кіраўнікоў філіялаў былі апортуністычныя развьжаньні, ў сувязі з павялічэньнем плянаў, пра нерэальнасьць і немагчымасьць выкананьня плянаў, як напрыклад, у ранейшым кіраўніцтве Менскага філіялу.

Новае кіраўніцтва Менскага філіялу здолела перабудавацца, стала на чале выкананьня гандальфінпляну мобілізавала грамадзкасьць колектыву на выкананьне.

**Вядучы сыстэматычную працу з кнігаю на аснове соцыялістычных мэтадаў масавае працы, Аршанскі і Менскі філіялы скончылі працу першага кварталу з перавыкананьнем гандальфінпляну.**

Узятыя Аршанскім і Менскім філіяламі тэмпы павінны быць замацаваны і надалей.

У асортымэнце літаратуры першага кварталу вялікае мейсца займала сельска-гаспадарчая літаратура, таму слабыя тэмпы паасобных філіялаў у абслугоўваньні кнігаю 3-е бальшавіцкае вясны таксама мелі ўплыў на невыкананьне гандальфінпляну.

Таксама прычынаю невыкананьня агульнага гандальфінпляну Сэктару Кнігагандлю быў ня поўны забор спажывецкаю коопэрацыяй літаратуры. Забор літаратуры БАКТ'ам выканан на 77,32%, што складае 487 т. р. замест 630 т. р. **Характэрна, што забор першага кварталу 1932 г. БАКТ'ам павінен быў даць значны рост, а ён ня больш за забор першага кварталу леташняга году.**

**Акрамя таго, трэба падкрэсьліць, што з усей сумы забору БАКТ'ам агульная літаратура складае ўсяго 187 т. р. Гэта паказвае слабую працу кнігарняў Райспажыўсаюзу па распаўсюджваньні агульна масава-політычнай літаратуры.**

Скончаная праца першага кварталу паказвае, што вызначаныя пляны на 1932 **рэальныя і жыцьцёвыя і іх можна выканаць пры сыстэматычнай масавай працы з кнігаю, пры актыўным удзеле грамадзкасьці ў распаўсюджваньні.**

Трэба расквітацца з об'ектыўнымі прычынамі невыкананьня гандальфінпляну і па-новаму ўзяцца за працу па ажыцьцяўленьні гандальфінпляну другога кварталу і ліквідаваць запазычанасьць першага.

**Трэба перанесьці баявую практыку і мэтады працы Аршанскага і Менскага філіялу ва ўсе філіялы і кнігарні Райспажыўсаюзу. У гэтым гарантыя выкананьня і перавыкананьня гандальфінпляну другога кварталу.**

## ЗАГАД № 18

### ПА СЭКТАРУ КНІГАГАНДЛЮ ДВБ АД 23-га КРАСАВІКА 1932 ГОДУ.

§ I.

У сувязі з набліжэньнем часу выхаду ваенных частак у лягеры прапаную ўсім філіялам:

а) пад адказнасьць загадчыкаў філіялаў зараз-жа распачаць абсталяваньне лягерных кнігарань і кіёскаў, узгадніў гэта пытаньне з палітаддзеламі адпаведных частак;

б) вылучыць здольных работнікаў для абслугоўваньня лягерных кнігарань;

в) пераглядзець асортымэнт літаратуры з мэтай папаўненьня яго;

г) вылучыць адпаведныя фонды кнігі канцпрыладаў для задавальненьня лягероў;

д) базам, функцыяналам і опэрацыйнай часткай заказы для лягераў выконваць у 1 ю чаргу, для чаго філіялам рабіць на заказах адзнаку „Для лягераў";

е) аб прынятых захадах да выкананьня гэтага загаду далажыць мне не пазьней 5/V—1932 г.

Дырэктар сэктару
кнігагандлю ДВБ КЛЕЙНЕР.

